**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства
«Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

13 (573) 31 сакавіка 2011 года

Кошт свабодны.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# “ÏÀÑÒÀÂÛ-ÒÁ” ² ¡ ²ÍÒÝÐÍÝÖÅ

**У нагу з тэхнічным прагрэсам імкнуцца працаваць і супрацоўнікі студыі Пастаўскага тэлебачання.**

Яшчэ мінулай восенню яны стварылі новы, удасканалены сайт http: / / postavytv. ucos. com, на якім зараз можна бясплатна глядзець асноўную інфармацыйна-аналітычную праграму тэлеканала “Итоги”. Паколькі ў рэгіёне ўжо карыстаюцца хуткасным інтэрнэтам звыш 2 тысяч абанентаў, то нават у самых аддаленых кутках Пастаўшчыны і па ўсім свеце сталі даступнымі прагляды тэленавін аб жыцці раёна. Створаны дадаткова архіў шэрагу тэлеперадач за мінулы 2010 год. Таксама кожны жадаючы можа напісаць на сайце пісьмо ў рэдакцыю, пакінуць на форуме свае заўвагі і прапановы па змесце перадач, паведаміць цікавую навіну. Дарэчы, такой магчымасцю скарысталіся на існуючым сайце тэлебачання за кароткі перыяд больш за 1800 чалавек, якія ведаюць пра тое, што ў Паставах чацвёрты год плённа працуе тэлестудыя, двойчы лаўрэат прэстыжнага нацыянальнага конкурсу электронных СМІ “Тэлевяршыня”.

# Ó Ðýñïóáë³êàíñê³ì öýíòðû ðàäûÿöûéíàãà êàíòðîëþ çàÿ¢ëÿþöü àá àäñóòíàñö³ ïàãðîçû ðàäûÿöûéíàé áÿñïåê³ ¢ Áåëàðóñ³

■ **Анастасія Янушэўская, БелаПАН**

**У Рэспубліканскім цэнтры радыяцыйнага кантролю і маніторынгунавакольнага асяроддзя заяўляюць аб адсутнасці пагрозы радыяцыйнай бяспецы ў Беларусі.**

Як паведамілі БелаПАН у цэнтры, у выніку пераносу з Японіі на тэрыторыю Еўропы іПаўночнай Амерыкі разам з атмасферным паветрам 24-25 сакавіка трапілірадыеактыўныя рэчывы: цэзій і ёд. Сляды гэтых радыеактыўных рэчываў знойдзены ў Беларусі, Расіі, Літве, Канадзе, Францыі, Германіі, Фінляндыі. "Актыўнасць гэтыхрадыенуклідаў як у Беларусі, так і ў Паўночнай Амерыцы і Еўропе практычнааднолькавая, што сведчыць аб глабальным характары пераносу гэтых радыенуклідаў",адзначылі ў Рэспубліканскім цэнтры радыяцыйнага кантролю і маніторынгунавакольнага асяроддзя.

Паводле інфармацыі цэнтра, утрыманне радыеактыўных рэчываў у паветры "вельмі нязначнае і ўплыву на радыяцыйнае становішча не аказвае, бо іх узроўні ў сотні разоў меншыя за санітарныя нарматывы Беларусі". Пры гэтым у цэнтры падкрэсліваюць, што ў краіне дзейнічаюць "вельмі жорсткія" нарматывы. Так, нарматыў па ёдзе-131 складае не больш чым 0,02 Бк/м куб. у суткі.

Як заяўляюць у Рэспубліканскім цэнтры радыяцыйнага кантролю, "радыяцыйнаестановішча ў Беларусі застаецца стабільным". Магутнасць дозы гама-выпраменьванняў паветры на назіральнай сетцы па стане на 28 сакавіка складае ў зонах"чарнобыльскага забруджвання" ад 20 мкР/гадз. у Чачэрску да 55 мкР/гадз. у Брагіне і 10-12 мкР/гадз. на астатняй тэрыторыі. Гэта адпавядае сярэднешматгадовым дадзеным.

Маніторынг радыяцыйнага становішча на тэрыторыі Беларусі працягваецца.

# Íàöûÿíàëüíû áàíê Áåëàðóñ³ ðýêàìåíäàâà¢ êàìåðöûéíûì áàíêàì àáìåæàâàöü âûäà÷ó êàðîòêàòýðì³íîâûõ êðýäûòà¢ äëÿ ô³ç³÷íûõ àñîá.

**Нацыянальны банк Беларусі рэкамендаваў камерцыйным банкам абмежаваць на 1 месяц выдачу кароткатэрміновых крэдытаў у беларускіх рублях для фізічных асоб. Пра гэта карэспандэнту TUT.BY паведамілі прадстаўнікі двух беларускіх банкаў.**

Па іх словах, гэта зроблена для таго, каб абмежаваць магчымасць канвертавання рублёў у замежную валюту.

Разам з тым адзін з прадстаўнікоў прыватнага банка адзначыў, што "пакуль не прынята канчатковае рашэнне, што рабіць з дадзенай рэкамендацыяй, бо яна не падмацавана ніякімі нарматыўнымі дакументамі". "Пакуль у нас нічога не змянілася. Мы выдаём крэдыты", - сказаў ён.

Прадстаўнік іншага банка адзначыў, што "хутчэй за ўсё, з заўтрашняга дня падобныя абмежаванні будуць уведзеныя".

У прэс-службе Нацыянальнага банка заявілі, што "такога ліста не было".

Тым часам БПС-Банк з 25 сакавіка па 3 красавіка спыніў прыём дакументаў на выдачу крэдытаў на спажывецкія патрэбы і набыццё аўтатранспартных сродкаў. Больш таго, з 28 сакавіка банк спыніў фінансаванне нерухомасці грамадзянам, якім патрэбна паляпшэнне жыллёвых умоў.




# Лічба нумара

**3.5%** - такім быў у Беларусі ў першай дэкадзе сакавіка, па дадзеных Белстата, рост спажывецкіх цэн на спрадвечны айчынны прадукт – бульбу. У першым веснавым месяцы менавіта на бульбачку інфляцыя расла найбольш імкліва. Як ні сумна, але ў нашай краіне цяпер ужо не купіць клубні ў крамах і на рынках танней, чым па 2-3 тысячы рублёў. Як кажуць, “дажыліся”, сябры-бульбашы, паколькі за кілаграм любімага многімі прадукта трэба гараджаніну выкласці амаль што долар.

Апошнім часам вырошчваць бульбу для калгасаў стала вельмі выгадна. Гэта культура (вось парадокс) стала адной з самых высокарэнтабельных у сельскай гаспадарцы. Аднак хоць і гучаць фанфары на штогадовых “Дажынках” і расказваюць пра рэкордныя ўраджаі пад 370 і болей ц/га у перадавых гаспадарках, большасць з іх развучыліся бульбу вырошчваць і не маюць патрэбнай тэхнікі. Клубні няма дзе захоўваць з-за адсутнасці спецыяльных, аснашчаных электронікай бульбасховішчаў. Нават кіраўнік краіны летась гаварыў, каб на месцах не лажылі бульбу ў бурты, бо такім састарэлым спосабам ураджай не захаваеш, таму вясной айчынная бульба мае кепскі таварны выгляд і буйныя гандлёвыя цэнтры, гіпермаркеты і супермаркеты сталіцы, абласных цэнтраў і вялікіх гарадоў вымушана завозіць польскую, харвацкую і нават албанскую дарагую бульбу. Але гэта адзін бок праблемы. У той самы час у Германіі, да прыкладу, самая дарагая, экалагічна чыстая бульба каштуе ў пераводзе на беларускія грошы максімум 1200 рублёў. Бюргеры могуць набыць бульбу і танней, але гэтыя гатункі вырошчваліся з прымяненнем розных навуковых распрацовак і хіміі.

Дарэчы, такая сітуацыя з бульбай, беларускім мясам, малаком, садавіной і гароднінай не адзінкавая. У адрозненне ад суседзяў, прадукты харчавання ў нас дарагія , а беларускія заробкі адстаюць. Праўда, сёлета на Віцебшчыне вырашылі павялічыць палеткі пад вырошчванне бульбы амаль у 2 разы. Усяго намечана заняць пад “другі хлеб” 10 тысяч гектараў. Які будзе восенню вынік, пакажа час. Тым часам сёлета ў Беларусі працягваюць расці цэны як вынік таго, што летась зарплаты беларусам да выбараў “падцягнулі” аж на 50 %.

Наша краіна проста “праела” 3,5 млрд. долараў крэдытаў “стэнд-бай” МВФ і завяршыла мінулы год з дэфіцытам дзяржбюджэту – 3 %. Беларускі лідар застаўся пры ўладзе на чацвёрты свой тэрмін, а сёлета з пачаткам года пачалася эканамічныя і палітычныя цяжкасці на фоне першых непрыемных санкцый з боку ЕС і больш жорсткіх ад амерыканцаў. У выніку сёлетняй вясной найбольш істотна, яшчэ амаль на 3 %, падаражэлі для беларусаў крупы, гародніна, а кошт грэчкі стаў практычна “касмічным”. Да ўсіх бедаў, адмоўнае сальда знешняга гандлю Беларусі таварамі ў студзені перавысіла аналагічны паказчык 2010 года, страшна назваць, - у 334 разы!

Як вынік, за 2 месяцы гэтага года беларускія золатавалютныя рэзервы знізіліся больш чым на 1,4 млрд. $ (на 20 %). Пры такіх тэмпах як бы нам не прыйшлося прадаць большую частку залатога запасу краіны, паколькі ўзнікла пагроза дэстабілізацыі фінансавага рынку РБ, а затым і дэвальвацыі беларускага рубля. Вось адкуль прычыны тых чэргаў у абменніках за пакупкамі долараў і еўра насельніцтвам. У краіне ўвялі часовыя забароны на набыццё валюты прадпрыемствамі, а з 1 сакавіка адпусцілі цэны на многія тавары, каб адцягнуць з рынку частку празмернай грашовай масы.

Ужо адкрыта гаворыцца, што Беларусь ідзе на новыя знешнія пазыкі і прадае валюту людзям замест таго, каб якія ўкладваць у развіццё эканомікі, той жа бульбаводчай галіны. Мы пакуль не навучыліся (альбо нямі не ўмеюць кіраваць) працаваць лепш, жыць па наяўных сродках, вырабляць болей якасныя прадукцыі на продаж за мяжу. Менавіта гэта трэба ведаць кожнаму з нас, а ўпраўленцам – добра падумаць аб тым, каб рэалізаваць праграму сацыяльна-эканамічнага развіцця і не дапусціць падзення ўзроўню жыцця нацыі.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì — www.rp5ru

| | чацвер 31.03.11 | | | | пятн. 01.04.11 | | | | сб. 02.04.11 | | | | нядз. 03.04.11 | | | | пн.04.04. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | -3 | -1 | +4 | 0 | -1 | +2 | +9 | +8 | +7 | +6 | +10 | +6 | +5 | +6 | +12 | +9 | +7 | +8 | +14 |
| Ціск, мм | 752 | 754 | 755 | 755 | 754 | 751 | 748 | 746 | 746 | 748 | 749 | 750 | 750 | 750 | 750 | 749 | 749 | 748 | 746 |
| Вільготнасць, % | 79 | 56 | 39 | 68 | 79 | 85 | 76 | 94 | 97 | 97 | 86 | 95 | 93 | 91 | 75 | 85 | 91 | 84 | 53 |
| Вецер м/сек | В 3 | Ю-В 4 | Ю-В 4 | Ю-В 4 | Ю-В 5 | Ю-В 6 | Ю 6 | Ю-З 5 | З 3 | З 3 | З 3 | Ю-З 2 | Ю-З 4 | Ю-З 4 | Ю-З 6 | Ю-З 4 | Ю 4 | Ю 5 | Ю 8 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**Са спазненнем з-за ўмоў надвор’я пачаліся сёлета веснавыя палявыя работы. Міжнародны валютны фонд парэкамендаваў ураду Беларусі тэрмінова правесці карэкціроўку бюджэтнай палітыкі і прыняць шэраг цяжкіх рашэнняў для аднаўлення знешняй стабільнасці эканомікі. Але кіраўніцтва краіны гэта адвяргае, апасаючыся негатыўных палітычных наступстваў. Еўрасаюз запатрабаваў ад РБ неадкладна вызваліць усіх палітзняволеных і спыніць рэпрэсіі. Тым часам на айчынных аўтарынках пачаўся ажыятаж напярэдадні павышэння з 1 ліпеня ўвазных пошлін на патрыманыя іншамаркі, істотна павысіўся на АЗС кошт бензіну Нармаль-80.**

# Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Японія.** Пасля павышэння ўзроўню радыяцыі пачаўся масавы выезд са сталіцы краіны Токіа, сталі актыўна пакідаць Японію замежныя грамадзяне, мегаполіс нібыта вымер.

**Лівія.** У адпаведнасці з рэзалюцыяй ААН сілы міжнароднай кааліцыі пачалі ваенную аперацыю супраць жосткага рэжыму М. Кадафі, які бамбіў непадкантрольныя гарады.

**Расія.** Расійскі ўрад запатрабаваў праграму дзеянняў сваіх калег з Беларусі на бліжэйшы час, перш чым выдзеліць РБ да ліпеня чарговы запрошаны крэдыт на суму 1 мільярд $.

**Егіпет.** З задавальненнем егіпцяне сустрэлі ліквідацыю камітэта дзяржаўнай бяспекі, які праследаваў апанентаў улады, падтасоўваў выбары, умешваўся ў асабістае жыццё людзей.

**Украіна.** На фоне збліжэння краіны з ЕС расійскі газ для украінцаў да канца года падаражэе на трэць, да 347 $, Крэмль паабяцаў узмацніць і сваю мытную мяжу з ёй.

**ЗША.** Кампанія Apple прадставіла ў Сан-Францыска суперсучасны планшэтны камп'ютар 2-га пакалення вагой 601 грам, таўшчынёй корпуса 8,8 мм з 2-ма відэакамерамі на 16 Гб.

**Кітай.** Краіна здзівіла свет намерам пабудаваць за 5 гадоў 36 млн. кв. м сацыяльнага жылля, каб панізіць цэны на нерухомасць, але дапусціла дэфіцыт знешняга гандлю.

**Грэцыя.** Урад краіны прадставіў новую праграму скарачэння дзяржрасходаў яшчэ на 20 млрд. еўра.

**Чэхія.** Кіраўніцтва краіны пацвердзіла, што чэхі прадаставілі палітычны прытулак экс-кандыдату ў прэзідэнты Беларусі А. Міхалевічу, яго сям’я пакуль засталася ў Мінску.

**ЗША.** Кампанія PepsiCo прадставіла першую ў свеце бутэльку для безалкагольных напояў, створаную на раслiннай аснове: з проса, сасновай кары і адходаў кукурузы.

**Украіна.** Міжгалiновая камісія па міжнародным гандлі пачала расследаванне па фактах імпарту летась у студзені-кастрычніку па дэмпінгавых цэнах шыферу з заводаў Беларусі.

**Кыргызстан.** Ля пасольства Беларусі ў сталіцы краіны прайшлі пікеты з плакатамі "Пабойся Бога", "Выдайце Бакіева!", "Дзе злачынец?", арганізаваныя рухам "7 красавіка".

**Расія.** На фоне росту цэн на нафту ў свеце эліта РФ багацее, у Маскве жыве ўжо 79 доларавых мільярдэраў, найбольш на планеце, а ў Нью-Ёрку – толькі 59 таўстасумаў.

**ЗША.** Група сенатараў накiравала ў Кангрэс праект рэзалюцыі па сітуацыі ў РБ з пунктам адмовіцца ад правядзення ў Мінску чэмпіяната свету па хакеі з-за наяўнасці палітвязняў.

**Германія.** На конкурсе песні "Еўрабачанне" ў Дзюсельдорфе ў другім паўфінале Беларусь выступіць 12 мая пад 16-м нумарам з песняй «Я люблю Беларусь».

# Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** З-за ажыятажнага попыту не толькі ў банках сталіцы, але і ў рэгіёнах беларусам няпроста дакупіцца валюты на фоне чутак аб магчымай дэвальвацыі айчыннага рубля.

**Смалявічы.** Пачалося праектаванне першага горада-спутніка Мінскія ў райцэнтры і вялікага жылога пасёлка індывідуальнай забудовы ў раёне Кургана Славы.

**Мінск.** Пенсіі ў РБ павышацца будуць, але ў Мінпрацы і сацабароны Беларусі пакуль не ведаюць, калі гэта будзе, цяпер павышаюцца толькі цэны, інфляцыя вырасла на 5 %.

**Астравец.** Расійскі прэм’ер У. Пуцін паабяцаў, што тут будзе пабудавана АЭС апошняга пакалення з больш надзейнымі сучаснымі энергаблокамі і сродкамі абароны ад аварый.

**Гарадзея.** На цукровым камбінаце запусцілі 2 лініі па выпуску прасаванага каляровага цукру з натурдабаўкамі і фігурнага цукру "Брыдж".

**Мінск.** Розныя чуткі ў сталіцы выклікаў нечаканы ўцёк за мяжу экс-кандыдата ў прэзідэнты Алеся Міхалевіча, раней ён абвінавацiў КДБ у катаванні зняволеных у СІЗА.

**Лагойск.** Спецыялісты БелНДІ горадабудаўніцтва вызначылі трасу хуткаснага трамвая, якая звяжа райцэнтр з Мінскам у мікраране Зялёны Луг праз Бараўляны, Раўбічы, Сілічы.

**Пухавічы.** Раённы суд не аднавіў на працы настаўніцу Талькаўскай СШ Наталлю Ільініч, хоць і спагнаў з РАНА 375 тыс. рублёў за маральную шкоду.

**Мінск.** Следчая група КДБ вяла з дазволу ўрачоў допыты ў бальніцы і дома аднаго з лідараў кампаніі "Гавары праўду" С. Навумавай амаль да самай смерці.

**Ашмяны.** Нацярпеліся страху трое бізнесменаў з Мінска, якіх прагналі з лясной альтанкі ля дарогі два галодныя пасля спячкі бурыя мядзведзі.

**Мінск.** У родны горад беларуска Дар’я Домрачава вярнулася членам камітэта спартсменаў Міжнароднага саюза біятланістаў і з сярэбраным медалём чэмпіяната свету.

**Гомель.** Па ацэнках спецыялістаў МНС, пры дрэнным развіцці паводкавай сітуацыі найбольшая колькасць раёнаў у РБ – адразу 15–будзе падтоплена ў басейнах рэк Прыпяць і Сож.

**Мінск.** з мастацкай выставы "Пагоня-20" у Палацы мастацтваў былі зняты 6 карцін і плакатаў трох аўтараў аб падзеях на плошчы 19 снежня з-за палітычнай цэнзуры .

**Нясвіж.** З-за выкарыстання пенаблокаў і іншых грубых парушэнняў падчас рэстаўрацыі Нясвіжскі замак могуць выключыць са спісу помнікаў сусветнага значэння ЮНЕСКА.

**Мінск.** Любімец публікі, канадскі нападаючы Джэф Плат заявіў, што не супраць прыняць беларускае грамадзянства, каб потым гуляць і за зборную Беларусі па хакеі.

## Ó 2011 ãîäçå ïëàíóåööà ïàâÿë³÷ûöü àá'¸ì íàðûõòî¢ê³ áÿðîçàâàãà ñîêó àìàëü íà 50%




■ Марына Носава, БелаПАН

**У 2011 годзе плануецца нарыхтаваць 22 тысячы тон бярозавага соку, што на 46,7% больш, чым годам раней, паведамілі БелаПАН у канцэрне "Белдзяржхарчпрам".**

**Як зазначылі ў канцэрне, пачаць нарыхтоўку бярозавага соку пакуль не дазваляе надвор'е. Аднак ужо ўсімі прадпрыемствамі, якія займаюцца перапрацоўкай бярозавага соку, заключаны дагаворы з лягсасамі на пастаўку і вызначана цана. Першымі, па ўсім відаць, у канцы сакавіка пачнуць** нарыхтоўку соку арганізацыі Брэсцкай вобласці.

Перапрацоўчымі прадпрыемствамі па-ранейшаму будуць рабіцца купажы, бярозавы сок на травах. Найбольшым попытам у спажыўца карыстаецца бярозавы сок з цукрам. Тым не менш, сёлета Гродзенскі кансервавы завод плануе прадставіць навінку на беларускім рынку — сок без цукру.

Прадпрыемствы Беларусі, як і раней, будуць разліваць сок у розную тару: ПЭТ-бутэльку, тэтра-пак, шкло. У канцэрне зазначылі, што сок у шкляных трохлітровых слоіках карыстаецца павышаным попытам у прадпрыемстваў грамадскага харчавання.

## Ïà÷ûíàå äàðàæýöü õëåá

■ Сяржук Серабро

Адпускныя кошты на пшанічны і жытне-пшанічны хлеб будуць павялічвацца кожны месяц на 1.7-5%. Такая пастанова прынята Міністэрствам эканомікі.

У каментарыі паведамляецца, што дадзеная пастанова прынята ў мэтах павелічэння выпуску пшанічных і жытне-пшанічных гатункаў хлеба простых рэцэптур, лімітавыя кошты на якія не змяняліся з 2008 года, а таксама для паэтапнага кампенсавання падаражэння збожжавай сыравіны і ў сувязі са стратнасцю вытворчасці хлеба.

Адпускныя кошты на пшанічныя і жытне-пшанічныя заварныя гатункі хлеба з выкарыстаннем дадатковага гатунку айчыннага паходжання пакуль засталіся без змен.

# Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** На сустрэчы з калектывам раддома №1 старшыня ААТ "Беларусбанк" Надзея Ермакова запэўніла віцяблян, што ў Беларусі ў банках цяпер дастаткова наяўнай валюты.

**Полацк.** Падчас чарговага Дня горада ў маі вырашана правесці тут міжнародны інвестыцыйны форум, каля 3 тысяч палачан зараз сур'ёзна займаюцца бізнесам.

**Верхнядзвінск.** На найбольш праблемных участках ракі Заходняя Дзвіна сапёры правялі падрывы лёду для папярэджання затораў ля мастоў, мінімізацыі наступстваў паводкі.

**Віцебск.** Дзякуючы сучаснаму аснашчэнню і маладым парадзіхам з Расіі гарадскі радзільны дом № 1 за адзін месяц выканаў гадавы план па экспарту медыцынскіх паслуг.

**Талачын.** Паблізу райцэнтра пачалося будаўніцтва самага сучаснага бульбасховішча для мясцовага кансервавага завода ёмкасцю 12 тыс. тон.

**Сянно.** З рэспубліканскага бюджэту выдзеліўлі сродкі на набыццё спецыяльнага аўтобуса для перавозак дзяцей-інвалідаў, аб гэтым людзі прасілі віцэ-прэм'ера Анатоля Тозіка.

**Орша.** На чыгуначным перагоне Чэрвіна-Орша Усходняя праходзячым грузавым саставам быў смяротна траўмаваны 19-гадовы малады жыхар раёна.

**Віцебск.** У розных кутках вобласці з-за дрэннай дэмаграфічнай сітуацыі сёлета закрыюць яшчэ 16 школ, летась такі лёс напаткаў 17 малакамплектных навучальных устаноў.

**Лепель.** Статак зубраў Бярэзінскага запаведніка нядрэнна перанёс суровую зіму, але ўжо 10 гадоў не павялічваецца, зусім здзічэў, баіцца людзей і налічвае, як і раней, каля 40 галоў.

**Докшыцы.** На аўтатрасе Віцебск-Мінск галерэю гербаў вобласці папоўніў геральдычны герб гарпасёлка Бягомль, у якога з'явіўся і сцяг – выява дрэва на зялёна-жоўтым фоне.

**Віцебск.** Настольнае люстэрка выпуклай, як лінза, формы стала прычынай ... пажару ў адной з кватэр мікрараёна Білёва.

**Глыбокае.** За мужны ўчынак– прадухіленне пажару і выратаванне чалавека– у райцэнтры ўручылі граматы райвыканкама і прэмію вучню Чарневіцкай СШ Яўгену Банькоўскаму.

**Віцебск.** Сапраўдным эрудытам стаў вучань 9 класа гімназіі № 5 Сяргей Зязюлькін, які выйграў абласныя алімпіяды па 3-х прадметах – фізіцы, матэматыцы і інфарматыцы.

**Паставы.** Услед за абласным цэнтрам і Наваполацкам новую тэхналогію правядзення аперацый па замене суставаў намечана асвоіць у Пастаўскай цэнтральнай райбальніцы.

**Віцебск.** Раённы суд прысудзіў 2 гады папраўчых работ з утрыманнем 15 % заробку жыхару раёна, які па неасцярожнасці застрэліў сябра на паляванні паблізу Сянно.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

**«Мяне яшчэ пашукаюць», — запісаў у сваім дзённіку Язэп Драздовіч.. І вось сёння, чытаючы ўспамін Вячаслава пра мастака, падумалася:**

*Вада, аблокі, думкі.- плынь якая.*
*Зямля, душа адсвечвае начамі.*
*І некага з духоўнамі вачамі*
*У думнай плыні нехта пашукае.*
*І ў родным полі.*

# Прыходзіць сон

**Марыя Баравік**

Усяму свой час. І Язэпа Драздовіча знайшлі. І да аўтара сённяшняга ўспаміну прыйшла пара пашукаць у памяці нейкія блізкія сустрэчы з дзядзькам Язэпам, якія ўразілі і запомніліся. Яму неадступна згадаўся Драздовіч. А мне цяпер ён, Чэсь, які (як я з'явілася ў Падсвільскай адзінаццацігодцы) працаваў у школьнай лабараторыі. Ён падаўся мне пытлівым, заклапочана-руплівым, засяроджаным і ветлівым. Сяброўскім. У яго ўжо тады быў фотаапарат. Чэсь здымаў прыгожае Падсвілле і наваколле. І мне пасля заканчэння школы, ужо значна пазней, падараваў здымак: сасновая галіначка з дажджынкамі на іглiцы. Ён шукаў прыгажосць у імгненнях жыцця навакольнага.

Хоць, як кажа, не ўмеў маляваць, але адчуваў незвычайнае. Веру, што Язэп Драздовіч замацаваў уражанне ў хлопчыку з дапытлівымі вачанятамі, які быў яшчэ толькі ў другім класе.

Вячаслаў зрабіў у жыцці шмат фотаздымкаў. Ён наведаў Падсвільскую бібліятэку, школу. Для музея падараваў здымкі сваёй колішняй узіральнасці ў родную прыроду і людзей. Падараваў для ўяўлення мінулай Падсвільшчыны. На памяць.

У Глыбоцкім гісторыка-этнаграфічным музеі была яго выстава калекцыі старых фотаапаратаў. Агляд доўжыўся каля трох месяцаў. Такая аматарская зацікаўленасць, жывінка ёсць у гэтым чалавеку. І інтанацыя мовы ягонай выразна беларуская, характэрная манера размаўляць зацікаўлена, па-вясковаму мякка, нягледзячы на тое, што выкладанне ва ўніверсітэце рускамоўнае, і прадмет выкладання - начартальная геаметрыя і інжынерная графіка. Выкладчыцкая праца Вячаслава Аляксандравіча Лубчонка у Наваполацкім універсітэце (пачаў у 1976 годзе) яшчэ працягваецца. Але ўжо ў гэтым узросце вельмі пяшчотна і аналітычна згадваюцца дзіцячыя дні, час, у хвілінах якога прамільгнуў перад ім Язэп Драздовіч.

Вячаслаў прыслаў мне свае ўспаміны пра дзядзьку Язэпа, які прыйшоў тады ў родныя мясціны пад канец свайго жыцця, вёў тут нейкія гутаркі з роднымі беларусамі. Пра ўсё. Вёў краязнаўчы вышук: фальклорны, этнаграфічны, духоўны... Рабіў гэта спакойна. Не было куды спяшацца. Адзін. І думкі ў адным рэчышчы.

І ў апошнія дні Язэпа наведваў яго ў бальніцы Аляксандар Лубчонак, які, выходзіць, ведаў і цаніў асобу Язэпа. Значыць, Язэп не такі ўжо і невядомы «жабрак» быў у той час.

**Прапануем чытачу ўспаміны Вячаслава.**

# Дзядзька Язэп у маёй памяці

**В.А. Лубчонак,**
*г. Наваполацк.*

*«Мяне яшчэ пашукаюць...»*

Я. Драздовіч.

**Ці ж можна было прадбачыць, што чалавека, сустрэчу з якім падараваў мне лёс яшчэ ўранні, назавуць «...белорусским Циолковским... в некотором роде он, Язэп Дроздович, - это наш Леонардо да Винчи...». СБ 18 октября 2008».**

Але ўсё па-парадку.

Восенню 1953 года мы жылі ў чыгуначнай будцы недалёка ад Падсвілля, насупраць вёскі Кубачнікі. Мой бацька Аляксандр працаваў пуцявым рабочым на чыгунцы. Я вучыўся ў другім класе Падсвільскай сярэдняй школы. Аднойчы адвячоркам, недзе ў палове кастрычніка, бацька прывеў у дом нейкага незвычайнага чалавека. У той час, у пару пасляваеннага жыцця, па вёсках даволі часта хадзілі жабракі, і я падумаў, што гэта таксама жабрак. Але, крыху агледзеўшыся, заўважыў, што ён не зусім звыклага выгляду: у доўгім чорным паліто, у капелюшы, з-пад якога выглядвалі доўгія валасы, барадаты. Статны. На плячы вісела даволі вялікая плоская фанерная скрыначка. Аднак вопратка выглядала вельмі паношанай, полы паліто і капелюша былі абабітыя. Такім словам памяць называе яго сёння. Тады я толькі наглядна ўлавіў і адчуў адрознасць яго асобы. Бацька сказаў маці, што гэта «вельмі добры художнік», ён у нас пажыве і будзе маляваць ікону. Так у нашым доме з'явіўся Язэп Драздовіч – толькі пазней я даведаўся яго прозвішча.

На наступны дзень дзядзька Язэп пачаў рыхтавацца да малявання – папрасіў у маці даматканага льнянога палатна і замацаваў яго на кавалку фанеры. Як аказалася, у пласкай скрыначцы былі фарбы, пэндзлі і яшчэ нейкія драбноцці. Бацька мяне папярэдзіў, каб я ў тую скрыначку з цікавасці – ні-ні.

Аб творчым працэсе нічога распавесці не магу, бо зранку я ішоў у школу, а адвячоркам дзядзька Язэп ужо не маляваў, скардзіўся, што зрок не той. Электрычнага святла тады ў нас яшчэ не было, а пры святле газавай лямпы справа не ладзілася. Памятаю толькі, што малявалася выява Хрыста, пры гэтым дзядзька Язэп карыстаўся нейкай вядомай рэпрадукцыяй, якая была каляровай, памерам прыкладна палавіны акруша А4. Справа ішла вельмі марудна.

Доўгімі восеньскімі вечарамі дзядзька Язэп з бацькам вялі гутаркі. Часам і я прыслухоўваўся да іх. Мне падабалася, як гэты чалавек апавядае. Нібы чытае кнігу. Я зразумеў, што наш госць любіць збіраць грыбы, пры гэтым прыгожа выказваўся, якія яму трапляліся краявіды: з узгоркамі, ручаінамі, палянамі.

І страшнаватая расказанка ўрэзалася у памяць, як аднойчы перад Прачыстай яго запрасілі пайсці на фэст. Ды напярэдадні прайшлі дажджы, і ў лесе з'явілася шмат грыбоў. Ён адмовіўся. Сказаў, што няхай душа ягоная святкуе, а ён пойдзе па грыбы.

Так і зрабіў. Збіраючы грыбы, выйшаў на прасеку і не адразу заўважыў, што ён не адзін – насустрач яму рухаўся другі грыбнік. І здзівіўся, што той у белай вопратцы і капелюшы, з лясачкай, паволі ідзе на збліжэнне. Здзівіўся, але не перастаў шукаць грыбы. Можа, ён і злякнуўся. Цяпер я так лічу – усё ж пацягнула зноў зірнуць, ці ёсць той другі грыбнік. Ды не стала. Некуды захінуўся. Знік. І тады дзядзька Язэп зразумеў, што гэта была яго «святкуючая душа».

Падобнае ў філасофіі разглядаецца як раздваенне асобы.

Часам, калі я адрабляў урокі, дзядзька Язэп вельмі ўважліва і доўга праглядваў мае падручнікі, пытаўся, што і як вывучаем у школе. А аднойчы пацікавіўся, ці ёсць у нас урокі малюнку і што мы малюем на занятках. Я паказаў свой школьны альбом. Выразна памятаю, як ён моўчкі праглядваў «мае творы». Здольнасцей да малявання ў мяне не было і характарызаваць было нечага. Пахваліў, што яблык намаляваны амаль што добра, крыху яго падправіў каляровым алоўкам, але заслугі маёй тут не было – дапамагала настаўніца. Прагледзеўшы альбом, спытаў: «А хочаш, я табе зраблю малюнак?» Я згадзіўся. Вельмі добра памятаю змест малюнка і працэс яго стварэння. Шкада, што ён не захаваўся. Папрасіў каляровыя алоўкі, альбом паклаў на левую руку. Пацікавіўся, ці люблю зімой катацца на лыжах. Я адказаў, што люблю. Ён узяў адзін з алоўкаў і рука стала нерухома пад аркушам. Потым зрабіў некалькі маланкавых, хуткіх рухаў, пакінуўшы ў розных месцах аркуша крэскі, рысачкі, лініі. Потым такія ж рухі алоўкам другога колеру, потым трэцяга. Нічога, аднак, на аркушы акрэсленага не выяўлялася, хоць я вельмі ўважліва ўглядваўся і сачыў за стварэннем малюнка. І вось бярэцца апошні аловак, зноў маланкавыя рухі ў розных месцах аркуша – і здарыўся цуд – ажыў малюнак: хлопчык на лыжах з'язжае з горкі, на ўзгорку ёлка з пушыстым снегам на галінках, на адной галінцы сядзіць варона, а крыху збоку і ўперадзе бяжыць вясёлы сабачка.

Значна пазней, назіраючы за працай мастака-графіка, я заўважыў, што той працуе так, як некалі ствараў свой малюнак дзядзька Язэп. Толькі ў апошні момант усё і адразу відаць, што стварылася – выступае выявай.

Аднойчы, калі я рабіў урокі, дзядзька Язэп нерухома стаяў каля акна злажыўшы рукі на грудзях,



і глядзеў удалечыню. Думкі яго былі таксама настолькі далёка, што проста адчувалася фізічная адсутнасць, і мне зрабілася страшнавата.

Пражыў дзядзька Язэп у нас дзён 10-12 і пачаў збірацца ў дарогу. Ікона засталася недамаляванай, сказаў, што, можа, другім разам закончыць.

Можна меркаваць, што пайшоў Драздовіч у вёску Свіла, дзе і намаляваў Свільскую царкву, малюнак захоўваецца ў музеі Падсвільскай СШ. На ім пазначана: «Яз. Н. Драздовіч Свіла-X-1953г», што дакладна супадае па часе.

Летам наступнага года бацька часта наведваў Драздовіча, які знаходзіўся на лячэнні ў Падсвільскай раённай бальніцы. Яна ад нас – праз раку Свіліцу, на беразе возера Белага. Будынкаў няма сёння – на месцы пагарэлыя развалiны, зарослыя бярэзнікам. Бацька насіў дзядзьку Язэпу закурыць, ці нешта смачнае, прыгатаванае мамай. Недзе напачатку восені бацька прыйшоў вельмі ўсхваляваны і паведаміў, што памёр Драздовіч, дабавіўшы, што гэта ж трэба, такі чалавек памёр, а пахаваць няма ў чым.

Добра гэта памятаю і магу пацвердзіць, што жыццёвы шлях Язэпа Драздовіча скончыўся ў Падсвільскай бальніцы. Пачуў у нейкай радыёперадачы, што, стомлены вандроўкай, Язэп упаў у гурбу і замёрз. Мой бацька, Аляксандр Далматавіч, як аказалася, ведаў Драздовіча яшчэ з 20-х гадоў, калі той даваў урокі малюнку хлопчыку з вёскі Каралева, з якой паходзіў і сам бацька. Але пра гэта крыху пазней.

Тата распавядаў, што за польскім часам Драздовіч актыўна супрацоўнічаў з газетамі, змяшчаў на старонках, як бы цяпер назвалі, коміксы, у якіх адклікаўся на падзеі тагачаснага жыцця. Малюнкі падпісваліся вершаванымі радкамі. Мне запомніўся радок пад малюнкам на тэму асадніцтва на польскай мове: «Osadniku ziemia musi. Tobie figa, Białorusie» – «Асадніку зямля належыць, табе фіга, беларусе».

Таксама бацька сцвярджаў, што аўтарам вершаваных радкоў пад малюнкамі з'яўляўся Драздовіч. Як цяпер шкадую, што не запісаў бацькавых успамінаў, а памятаў ён вельмі шмат. Даваў аднойчы інтэрв'ю аб Драздовічу Алесю Жыгунову, якое прагучала па праваднай сетцы раённага радыё. Было гэта да 90-годдзя з дня народзін Драздовіча. Пазнаёміў Жыгунова з бацькам мой добры сябра Васіль Фёдаравіч Харэвіч.

Мне пашанцавала пабачыць малюнкі, на якіх, без сумневу, прысутнічала рука Драздовіча. Адбылося гэта напрыканцы 60-х гадоў, я ўжо быў студэнтам і бацька, не памятаю па якой справе, паслаў мяне да адзінокай жанчыны ў вёску Каралева. Я ведаў яе з маленства. Усе называлі жанчыну Антоніхай. Яе муж за польскім часам пайшоў шукаць шчаслівае жыццё ў Савецкі Саюз і з той пары звестак аб ім не было. Імя жанчыны – Надзея Стэфанаўна Каляга. Яна была маці таго хлопчыка, урокі малявання якому даваў Язэп Драздовіч. Юнаком хлопец трагічна загінуў, а маці берагла яго малюнкі, якія паказала і мне. Добра памятаю дакладна і выразна вымаляваную конскую галаву і бэз у вазе. Малюнкі былі на аркушах, крыху большых чым А4. Вярнуўшыся дадому, распавёў пра ўбачанае бацьку, і ён удакладніў, што хлопец поспех у маляванні меў слабы. Іх вытанчэнне належыць настаўніку. Зноў шкада: мог жа я зрабіць здымкі тых малюнкаў, бо меў фотаапарат і займаўся каляровай фатаграфіяй. У вёсцы Каралева ёсць яшчэ тая хата. Не ведаю, каму яна належыць цяпер. Можа, і малюнкі захаваліся, бо жанчына мела радню і нехта іх зберог. Як тут не ўспомніць прарочыя словы Драздовіча: «мяне яшчэ пашукаюць...» Усё, аб чым я распавёў, захавала мая памяць, нічога няма прыдуманага або недзе пачутага, акрамя таго, што ўзяў ад бацькі.

# Дзень духоўных сустрэч у Параф'янаве

■ Кс. Віктар Місевіч

У чацвер 24 сакавіка духавенства і законныя сёстры Віцебскай дыяцэзіі сабраліся ў Параф'янаве з нагоды дня духоўных сустрэч. Св. Імшы папярэднічала прыватная малітва ў цішыні перад Езусам у Эўхарыстыі. Вялікі Пост – час навяртання і пакаяння. Таму святары і сёстры прыступілі таксама да споведзі.

Падчас св. Імшы, якую цэлебраваў біскуп Уладзіслаў, прагучала слова Божае з вуснаў а. Марэка Пасюта, докшыцкага пробашча. Ён нагадаў пра ідэі ўбогасці і свабоды ў жыцці вернікаў. Канферэнцыю на тэму дзеяння Духа Святога і супрацьдзеяння злога духа правёў духоўны айцец святароў а. Раман Шульц OP.

Пасля аб'яваў у мясцовай школе адбыўся абед, на які шчыра запрасіў гаспадар парафіі кс. дзекан Марат Казлоўскі. Закончыўся дзень духоўных сустрэч спатканнем дзеканаў, падчас якога абмяркоўваліся надзённыя і важныя пытанні з жыцця Віцебскай дыяцэзіі.









## Ксёндз Юры Барок у Дзень Волі маліўся ў Ерусаліме за Беларусь

■ Кастусь Шыталь



**Каталіцкі святар Юры Барок 25 сакавіка маліўся ў Ерусаліме за Беларусь.**

Святар знаходзіцца на Святой Зямлі разам з групай беларускіх пілігрымаў.

Ксёндз Юры Барок нарадзіўся ў Мёрах, служыў да нядаўняга часу ў Глыбокім. Разам са сваім малодшым братам Вячаславам арганізуе пілігрымкі да хрысціянскіх святыняў Еўропы.

Святар вядомы сваёй актыўнай грамадзянскай пазіцыяй, за што неаднаразова цярпеў пераслед з боку іерархіі.

## Мама, дазволь мне жыць!..



■ с. Марына Брылёнак

25 сакавіка 2011г. у парафіі святой Тройцы ў Дунілавічах адбылося тэатралізаванае прадстаўленне " Мама, дазволь мне жыць!..". Як вядома, што ва ўрачыстасць Звеставання Дзеве Марыі звяртаецца асаблівая ўвага на абарону жыцця, абарону ненароджаных дзяцей, тым, каму пагражае небяспека аборту. Касцёл агортвае малітвай тых жанчын, якія не маюць адвагі прыняць новае жыццё, якое носяць пад сваім сэрцам. Альбо гэтае жыццё перашкаджае іх планам на будучыню… Асабліва ў гэты дзень Касцёл заахвочвае вернікаў да духоўнага ўсынаўлення ненароджаных дзяцей, якім пагражае небяспека аборту.



Пасля Святой Імшы моладзь і дзеці паказалі невялікую сцэнку ў абарону жыцця. Пад час казання пробашч парафіі кс.Павел Самсонаў звярнуў увагу вернікаў на вялікую патрэбу нашай малітвы ў гэтай інтэнцыі, асабліва заахвочваў да духоўнага ўсынаўлення. Пасля сцэнкі кожны меў магчымасць падысці да кс. Паўла і атрымаць формулу абяцання са штодзённай малітвай.

Верым у тое, што малітва духоўнага ўсынаўлення прынясе плён асабліва ў нашай краіне, дзе праблема абортаў вельмі вялікая. Таксама прынясе жыццё дзеткам, якім пагражае небяспека ад самага блізкага чалавека – ад маці. Наша малітва можа прынесці шмат радасці ў сем'і, якія перажываюць цяжкасці, радасці ад дзіцячага смеху і прысутнасці.

## Стары альбом



**Хрэсны ход у Глыбокім, 1920-ыя гг.** Фота з альбома Я. Уладзімірава, г. Мінск.

## З 12 па 15 мая Беларусь наведае старшыня Папскага савета па сродках масавай камунікацыі арцыбіскуп Марыа Чэлі

**З 12 па 15 мая Беларусь наведае старшыня Папскага савета па сродках масавай камунікацыі арцыбіскуп Клаўдзіа Марыа Чэлі, паведаміў БелаПАН ксёндз-натарыус Мінска-Магілёўскай арцыдыяцэзіі Рымска-каталіцкай царквы ў Беларусі Юрый Санько.**

Паводле яго слоў, прадстаўнік Святога прастолу прыбудзе ў Мінск вечарам 12 мая.

13 мая ў сталічным Чырвоным касцёле (касцёле святых Сымона і Алены) ватыканскі іерарх сустрэнецца з прадстаўнікамі свецкіх і рэлігійных СМІ. З журналістамі свецкіх сродкаў масавай інфармацыі сустрэча пройдзе па тэме «Этыка ў СМІ», рэлігійных– па тэме «Неабходнасць выкарыстання СМІ ў справе евангелізацыі».

Запланавана таксама правядзенне святой імшы з удзелам арцыбіскупа Чэлі. 14 мая пасланец Папы наведае Мір і Нясвіж, дзе ў касцёле Божага Цела запланавана літургія. У завяршэнне візіту 15 мая прадстаўнік Святога прастолу разам з вернікамі будзе маліцца ў Мінскім архікафедральным касцёле найсвяцейшай Панны Марыі.

Папскі савет па сродках масавай камунікацыі, які адказвае за распаўсюджанне хрысціянскай веры ў СМІ, займаецца і праблемай этыкі ў інтэрнэце. Савет быў заснаваны ў 1948 годзе Папам Піем XII як Папская камісія па навучальных і рэлігійных фільмах. З 1954 года гэты орган пад назвай «Папская камісія па кінематаграфіі» нароўні з кіно занялася радыё і тэлебачаннем. У 1964 годзе папа Павел VI уключыў у сферу дзейнасці камісіі газеты і часопісы. Падчас рэформы Рымскай курыі ў 1988 годзе папа Ян Павел II пераўтварыў камісію ў Папскі савет па масавых камунікацыях.

Арцыбіскуп Клаўдзіа Марыа Чэлі ўзначальвае савет з 27 чэрвеня 2007 года. У студзені 2008 года ён заявіў, што каталіцкія СМІ не павінны стаць інструментамі рэлігійнага ці культурнага фундаменталізму, а павінны быць звернутыя да ўсіх людзей, вернікаў і нявернікаў.

*Марат Гаравы, БелаПАН.*

# Докшыцкая моладзь правяла першы флэшмоб










■ **Кастусь Шыталь.**

**Фота Паўла Малюжанца**

**Каля сарака маладзёнаў правялі 25 сакавіка флэшмоб у цэнтры Докшыц. Ініцыявалі мерапрыемства сябры мясцовай забаўляльнай ініцыятывы «Event».**

Гэта быў першы флэшмоб, праведзены ў горадзе. Яму папярэднічала актыўная рэкламная кампанія з раздачай флаераў і расклейкай абвестак.

Каля 17-й гадзіны ўдзельнікі пашыхталіся на плошчы каля гарадской кінаканцэртнай залы, чакаючы на аўтобус «Мінск - Мёры». Яны трымалі ў руках рознакаляровыя балёнікі і расцяжку з лагатыпам «Event'y».

Калі аўтобус пад'язджаў да плошчы, удзельнікі флэшмобу перагарадзілі вуліцу па пешаходным пераходзе. Хвіліны дзве яны стаялі вакол аўтобуса, махаючы балёнікамі і «вітаючы» пасажыраў, пасля чаго вызвалілі праезную частку.

# Мясцовыя асілкі

■ **Яўген Самсонаў**

**28 сакавіка ў памяшканні Глыбоцкага ЦФАП праходзілі спаборніцтвы па гіравым спорце на першынство Глыбоцкага раёна сярод працоўных калектываў.**

Мацнейшымі ў асабістым заліку ў штуршку і рыўку 24-кілаграмовай гіры сталі: А.Краснадубскі (да 60 кг) – Ахова, А. Дзікавіцкі (да 70 кг) – ККЗ, М. Шыматкоў (да 80 кг) – Ліцэй, А. Шарабайка (да 90 кг) і ў вазе звыш 90 кг бясспрэчным пераможцам у практыкаваннях з двухпудовай гірай стаў А.Пахілка – ККЗ.

У камандным заліку: 1-е месца заняла каманда Ліцэй, 2-е – Ахова, 3-е – ККЗ. Аграпрамбанк, РАУС, ЖКГ, МКК і АП-16 падзялілі адпаведна з 4 па 8 месцы.

**Падчас спаборніцтваў.**



**Каманда ліцэя.**



# Парадак нарыхтоўкі драўняных сокаў і прыцягненне да адміністрацыйнай адказнасці ў выпадку яго парушэння

■ **А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**Паводле пункта 2 Правілаў №37/36,: «Юрыдычныя асобы і грамадзяне павінны ажыццяўляць нарыхтоўку драўняных сокаў... на землях лясного фонду ў адпаведнасці з Правіламі нарыхтоўкі другарадных лясных рэсурсаў і ажыццяўлення пабочнага лесакарыстання».**

Грамадзянам прадстаўляецца магчымасць свабоднай нарыхтоўкі драўняных сокаў **толькі** на адмыслова адведзеных для падсочкі ўчастках лясного фонду, з выкананнем тэхналогіі падсочкі, паводле часткі 11 Правілаў №4, а таксама магчымасць набыцця нарыхтаванага соку ў структурных падраздзяленнях юрыдычных асоб, якія вядуць лясную гаспадарку. У астатніх месцах на землях лясного фонду нарыхтоўка драўняных сокаў **забараняецца.**

У адпаведнасці з пунктамі 12-13 Правілаў №37/36, нарыхтоўка драўняных сокаў забараняецца:

- «у прыбярэжных палосах рэк, азёр, вадасховішчаў і іншых водных аб'ектаў, у межах палос адводу чыгуначных і аўтамабільных дарог, іншых транспартных і камунікацыйных ліній;
- у населеных пунктах;
- у дэндралагічных парках, батанічных садах;
- у месцах рассялення дзікіх жывёл і вырастання дзікарослых раслін, аднесеных да відаў, якія ўключаны ў Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь;
- у межах акруг і зон санітарнай аховы курортаў;
- у межах гісторыка-культурных запаведнікаў, мемарыяльных паркаў, археалагічных помнікаў;
- на тэрыторыі санаторыяў, дамоў адпачынку, курортаў і ўстаноў аховы здароўя;
- у месцах масавага адпачынку насельніцтва».

Акрамя таго, паводле пункта 22 Правілаў №37/36: «Нарыхтоўка драўняных сокаў на землях любых катэгорый, за выключэннем тых, дзе дадзены від карыстання аб'ектамі расліннага свету забаронены ці абмежаваны ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь пра раслінны свет, павінна ажыццяўляцца толькі ў перастойных і саспелых дрэвастоях, прызначаных для рубак, ва ўсталяваным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь парадку».

У адпаведнасці з пунктам 23 Правілаў №37/36: «Нарыхтоўка драўняных сокаў павінна праводзіцца спосабамі, якія забяспечваюць захаванне тэхнічных якасцяў драўніны ў парадку, усталяваным Правіламі нарыхтоўкі другарадных лясных рэсурсаў і ажыццяўлення пабочнага лесакарыстання».

Нарыхтоўка драўнянага соку ў межах асабліва ахоўваемых прыродных тэрыторый можа ажыццяўляцца грамадзянамі, калі гэта дапускаецца рэжымам аховы і выкарыстання гэтых тэрыторый.

За нарыхтоўку соку на тэрыторыі, дзе гэта забаронена, або без дазваленчага дакумента, калі яго атрыманне абавязкова, ці не ў адпаведнасці з ім, прадугледжана адміністрацыйная адказнасць у адпаведнасці з часткай 1 артыкула 15.26 КОАП Рэспублікі Беларусь.

За нарыхтоўку соку з ужываннем забароненых сродкаў і метадаў (парушэнне тэхналогіі нарыхтоўкі) або допушчэнне іншых парушэнняў правілаў нарыхтоўкі прадугледжана адміністрацыйная адказнасць у адпаведнасці з часткай 2 артыкула 15.26 КОАП Рэспублікі Беларусь.

У выпадках пашкоджання дрэў да ступені спынення росту, пры правядзенні нарыхтоўкі драўняных сокаў з парушэннем тэхналогіі падсочкі, вінаватыя юрыдычныя, фізічныя асобы і індывідуальныя прадпрымальнікі нясуць адміністрацыйную адказнасць па частцы 1 ці 2 артыкула 15.22 КОАП Рэспублікі Беларусь.

Нароўні з выплатай штрафу вінаватыя абавязаны пакрыць шкоду, прычыненую навакольнаму асяроддзю пашкоджаннем дрэў, па таксах, зацверджаных Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 24.07.2008 № 348 «Пра таксы для вызначэння памеру пакрыцця шкоды, прычыненай навакольнаму асяроддзю».

Пры немагчымасці канфіскацыі незаконна нарыхтаванага драўнянага соку ў юрыдычных і фізічных асобаў спаганяецца яго кошт паводле таксаў, якія зацверджаны пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 20.07.2001 № 1073 «Пра спагнанне кошту незаконна здабытай драўніны і іншай лясной прадукцыі пры немагчымасці іх канфіскацыі ў юрыдычных і фізічных асобаў».

Парадак нарыхтоўкі соку растлумачаны вельмі падрабязна для таго, каб грамадзяне не парушалі прыродаахоўнае заканадаўства і ведалі адказнасць за парушэнне.

Пра ўсе парушэнні Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі: 2-86-70, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

**Увага: для рыбаловаў-аматараў паведамляем, што лоўля рыбы на вадасховішчы «Азерцы» платная, усе неабходныя дакументы маюцца.**

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

4 – 10 красавіка 2011 г.













Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 кругласутачна. Выразна назавіце газету. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".

Кошт абвесткі аб'ём-мам да 5 слоў – 2500 р.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 4 красавіка

### Першы нацыянальны

**06.00,07.00,08.00,09.00, 12.00**(ссурдопереводом)**, 13.00,14.00,15.00, 16.00,17.00,18.00, 19.00,23.05**Новости.
**06.05**,**07.10,08.15**«Доброеутро,Беларусь!».
**07.05**, **08.10** Зона Х.
**07.30**, **08.25, 11.50** «Деловая жизнь».
**08.30** В мире моторов.
**09.10 "Маргоша"**
**10.05** Женское ток-шоу
**11.00 "Затмение"**
**12.10 "Деревенская комедия"**
**14.15** Синематека.
**15.15**, **19.10** Новости региона.
**15.40** «OFF STAGE LIFE»
**16.05** Nota Bene.
**16.30 "Маршрут милосердия"**
**17.25 "Затмение"**
**18.25** «Окно в Европу».
**18.50**, **01.40** «Зона Х».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Арена».
**19.50«Маргоша»**
**21.00** «Панорама».
**21.45** «Командировка
**22.00"Обмани меня-2**
**23.15**«Проверкаслухов».
**23.45 "Фейерверк"**
**01.45** День спорта.

### АНТ

**06.00**, **09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10 "Моя жена меня приворожила".**
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Союз».
**11.50** «Хатынь. Засекреченная трагедия».
**12.20** «Детективы».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Контрольная закупка».
**13.45** «Модный приговор».
**14.50** «Понять. Простить».
**15.25** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости
**16.10** Новости спорта.
**16.15 "Обручальное кольцо".**
**17.05"Словоженщине"**
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет».«Брестская крепость. Неизвестная оборона».
**18.55** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05**«Открытыйформат».
**22.10** «След».
**23.00** Наши новости
**23.15**Новости спорта.
**23.20** Открытый космос»1-я и 2с
**01.20-01.40** Ночные новости.





### Тэлеканал "ЛАД"

**06.30 "Универ"**
**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Телебарометр.
**08.05 "Сержант"**
**08.35 "Ты моя жизнь"**
**09.40 "Попасть в десятку"**
**11.25** Пра мастацтва.
**11.55** Школа ремонта.
**12.55** Час суда. Дела семейные.
**13.55 "Сила притяжения"**
**14.50 "Семейка пиратов"**
**15.15**«Дети нового поколения». 7-е классы. 1-я игра.
**16.20** Внеклассный час.
**16.35** Новости погоды.
**17.05"Анатомия Грэй5**
**18.00 "Ты моя жизнь"**
**19.05** Хоккей. КХЛ.Плей-офф.Финалконференции «Запад». Матч 7-й . В пер: Калыханка.
**21.25** Телебарометр.
**21.30** Белорусское времечко.
**22.40 "Интерны"**
**23.15 "Универ"**
**23.55** Овертайм.
**00.25** Футбол. ЧемпионатАнглии.Премьер-лига. Обзор тура.
**01.20Анатомия Грэй-5**

### Тэлеканал "СТВ"

**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40**«Держи меня крепче».Теленовелла.
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** «Фантастика под грифом «Секретно»: «Чудо-люди».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг».
**15.00** Концерт Михаила Задорнова.
**16.00** «КультУРА!».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 "Огонь любви"**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.35**ПРЕМЬЕРА!**«КАПКАН ДЛЯ КИЛЛЕРА»**.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Столичный футбол».
**23.30«ВОЗВРАЩЕНИЕ В БРАЙДСХЕД»**.

### БЕЛСАТ tv

**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:30 "Блізкія незнаёмцы»**
**9:10** «Маргарэт Тэтчэр. Дзяцінства правадыркі»
**10:05** Прэс-экспрэс
**10:25** ПраСвет
**10:50** Эксперт
**11:15** Гісторыя пад знакам Пагоні
**11:30**«Старадаўніяінструменты Беларусі»
**11:50** Моўнік
**12:00** Аб'ектыў
**12:05 "Блізкія незнаёмцы»**
**13:45**«Маргарэт Тэтчэр. Дзяцінства правадыркі»
**14:40** Прэс-экспрэс
**14:55** ПраСвет
**15:20** Эксперт
**15:50** Гісторыя пад знакам Пагоні
**16:00** Басанож па свеце
**16:30**«Старадаўніяінструменты Беларусі»
**16:50** Моўнік
**17:00** Аб'ектыў
**17:05"ПіпіДоўгаяпанчоха»**,
**17:35 "Час гонару»**, серыял: 23 серыя
**18:20** Хто ёсць кім?
**18:35** Прэс-экспрэс
**18:55** «Вызваленне»,
**19:30** Аб'ектыў
**19:35** Гарачы каментар
**19:45** Калыханка для самых маленькіх
**19:50** Еўропа сёння
**20:15** Моўнік
**20:25** «Жылі дзядуля і бабуля»
**21:00** Аб'ектыў

ПАНЯДЗЕЛАК, 4 красавіка

# Калі наступіць канец свету

**Ёсць людзі, якія на гэта пытанне адкажуць вам з дакладнасцю да хвіліны.Ёсць тыя, якія вызначаць прыблізна перыяд: плюс-мінус дзесяцігоддзе. Ёсць мудрэйшыя вешчуны: яны падкажуць прычыны апакаліпсісу, а наконт даты дазволяць вам разважаць самастойна.**

■ **Ганна Севярынец**

Словам, калі захацець, свой асабісты канец свету можна прызначыць на бліжэйшы панядзелак - хто-небудзь з футуролагаў ці экстрасэнсаў абавязкова будзе з вамі салідарны.

Хоць час ад часу сапраўды здараюцца рэчы, якія прымушаюць нават самых закаранелых скептыкаў з трывогай паглядзець на каляндар.

Вось, напрыклад, як ліха пачаўся 2011 год: чатыры тысячы чорных драздоў, якія зваліліся на зямлю Арканзаса, дзве з паловай тысячы мёртвых птушак - у Луізіяне і Кентукі, масавая невытлумачальная гібель птушак у Італіі, Канадзе, Швецыі, больш за сотню кітоў-самазабойцаў у Новай Зеландыі, сорак тысяч мёртвых крабаў на англійскім беразе...

А тут яшчэ каляндар майя заканчваецца.

Ды і людзі штосьці ўсё часцей жаляцца то на чорную дэпрэсію, то на хранічны стрэс, то на глабальную адзіноту, то на адсутнасць асабістай прасторы...

Ва ўсім свеце расце адсотак людзей з псіхічнымі захворваннямі і колькасць самагубстваў - і гэта медыцынскі факт.

Навукоўцы, якія спрабуюць асэнсаваць падзеі і шукаюць заканамернасці ў гэтых чымсьці злучаных паміж сабой працэсах, мяркуюць: уся справа ў змене электрамагнітных ваганняў, якія скажаюць успрыманне жывых істот і выклікаюць прыступы панічнага страху, невытлумачальнай турботы і неадэкватных паводзін.

Прычым як у жывёл, так і ў людзей.

Натуральна, пацверджанні гэтым гіпотэзам знаходзяцца ў велізарнай колькасці разнастайных празорцаў і вешчуноў – ад усюдыіснага Настрадамуса да сусветнавядомай Вангі.

Кажуць, у канцы сямідзясятых Ванга папярэдзіла людзей:

"Свет перажыве шмат катаклізмаў і моцных узрушэнняў. Зменіцца сама свядомасць людзей. Надыдуць цяжкія часы. Людзі падзеляцца па прыкмеце веры. Вернецца да іх і самае старое - мудрае вучэнне.

Новы час патрабуе новага мыслення, іншай свядомасці, зусім новых людзей, каб не парушаць гармонію ў Сусвеце. Таму выснова простая: кожнаму трэба ўжо цяпер вырашаць, на чым ты баку - дабра ці зла. Выратаванне кожнага закладзена ў кожным з нас".

Я стоячы апладырую Ванзе, якая, выдатна ведаючы дурную і забабонную людскую пароду, забяспечыла сярэднявечнымі метафарамі і езуіцкім сінтаксісам просценькую, але жыццёва важную думку: трэба выбіраць, і выбіраць неадкладна, і толькі самому.

І калі кожны з нас, не ўсе, а менавіта кожны, абярэ зло - то канец свету наступіць неадкладна і наўрад ці будзе суправаджацца масавымі самагубствамі млекакормячых.

Ён будзе ціхі і змрочны, гэты канец, як раніца прысуджанага да пакарання смерцю, за якім ужо прыйшоў шэры чалавек з добра змазаным рэвальверам.

А таму, хто абраў дабро – самастойна абраў, у розуме і цвярозай памяці, а не пад страхам сусветнага катаклізму - і магнітныя ваганні нішто.

# Скурка цытрусавых небяспечная для здароўя



**Перш чым дадаваць лімон ў чай, навукоўцы раяць зразаць з яго скурку.**

Навукоўцы, якія адказваюць за кантроль якасці прадуктаў, што паступаюць на рынак, папярэджваюць: замежныя цытрусавыя, што б ні гаварылася пра карыснасць рэчываў, якія змяшчаюцца ў іх скурцы варта ўжываць выключна ў ачышчаным выглядзе.

Паколькі цытрусавыя, экспартуемыя з цёплых краін, праходзяць доўгі шлях, то для таго, каб яны лепш захаваліся і прыехалі да нас цэлымі і прыгожымі, перад адпраўкай іх шчодра апрацоўваюць рознымі пестыцыдамі, піша bigmir.net. Пры ўсёй стараннасці цалкам змыць гэтыя рэчывы са скуркі немагчыма, кажуць даследчыкі. І раяць зразаць скурку з цытрыны, перш чым дадаваць яе ў чай.

# Прадукты, якіх баіцца радыяцыя

Айчынныя эндакрынолагі інфармуюць, як правесці прафілактыку ўздзеяння радыяцыі на арганізм чалавека. Яны распавялі, якія яшчэ прадукты сілкавання, акрамя морапрадуктаў, утрымоўваюць ёд.

Такімі ўласцівасцямі валодаюць таксама бананы, хурма, лімоны, фейхоа, яйкі, масла і ялавічына. Аднак ужываць гэтыя прадукты трэба штодня, каб насыціць арганізм неабходнай колькасцю ёду.

Выдатнай прафілактыкай з'яўляецца падрыхтоўка ежы з ёдаванай соллю. Навукоўцы нагадваюць, што ёсць прадукты, якія блакуюць засваенне ёду: брусельская капуста, хрэн, фасоль, рэпа, арахіс.

# Што можа распавесці пра мужчыну яго група крыві?



**Жадаеце даведацца пра свайго выбранніка самае патаемнае, напрыклад, які ён у пасцелі? Тады высветліце яго групу крыві.**

Як вядома, сексуальнасць вызначаецца ўзроўнем палавых гармонаў у крыві. Даследаванні гематолагаў (навукоўцаў, якія вывучаюць кроў) і псіхолагаў выявілі дзіўную залежнасць любоўнага тэмпераменту ад групы крыві.

**Першая група - заваёўнікі**

Уладальнікі першай групы крыві прывыклі атрымліваць усё і адразу. Калі ім гэта не ўдаецца, яны пачынаюць дзейнічаць, як дасведчаныя паляўнічыя ў пагоні за дзічынай, і не супакойваюцца, пакуль не дамогуцца свайго. Думкі пра секс прыходзяць у галаву такім мужчынам не радзей шасці разоў у хвіліну. З іншага боку, сярод іх шмат працаголікаў, у якіх на першым месцы праца, хоць яны і не грэбуюць шлюбнымі абавязкамі.

Не спяшаецеся ў яго абдымкі. Залёгкая перамога можа моцна астудзіць запал. Вельмі верагодна, што ваш раман будзе вельмі бурным, а сэкс - гарачым, але з часам у адносіны пранікае руціна, нуда. У такім разе бярыце ініцыятыву ў свае рукі і самі прыдумляйце што-небудзь новенькае. Партнёр будзе ўдзячны вам, і адносіны зайграюць новымі колерамі.

**Другая група - пачуццёвыя рамантыкі**

Уладальнікі другой групы крыві звычайна людзі спакойныя, цярплівыя, здольныя на глыбокае пачуццё. Часта ім замінае нясмеласць. "Другагрупнік" можа доўга заляцацца да сваёй выбранніцы, выконваць любыя яе жаданні, але пры гэтым яму цяжка рашыцца на прызнанне ў каханні і блізкасць. Юныя дзяўчаты рэдка ўлюбляюцца ў такіх мужчын, лічачы іх сумнымі, затое жанчыны старэйшыя здольныя ацаніць іх.

Мужчыны з другой групай крыві - натуры пачуццёвыя, тонкія, адораныя. І ў працы, і ў адносінах з сябрамі і з жанчынамі яны прад'яўляюць высокія патрабаванні і да сябе, і да іншых. За знешнім спакоем утойваецца чулая, уражлівая душа. Яны могуць здавацца лядоўнямі, але калі ўлюбляюцца, здольныя на бурную праяву пачуццяў.

Каб заваяваць такога мужчыну, спатрэбіцца дыпламатыя. Яго трэба асцярожна весці ў патрэбным кірунку, падштурхоўваючы да рашучага кроку, але рабіць гэта вельмі далікатна.

**Трэцяя група - плэйбоі**

Мужчына-"трэцягрупнік" не імкнецца да ролі заваёўніка, яму проста прыемна падабацца, сустракацца з дзяўчынамі, тусавацца. Секс для яго - свайго роду прыемны вольны час, а адмова - не трагедыя, ён лёгка пераколючаецца на іншы від прыемнага баўлення часу. "Няма дык няма, застанемся сябрамі". Цікава, што амаль 40% амерыканскіх мільянераў - уладальнікі трэцяй групы крыві.

Тым не менш, "трэцягрупнікі" здольныя выпрабоўваць моцны запал. Часам гэта служыць крыніцай душэўнага разладу, пакутлівых сумневаў і пакут. Усю гэту буру пачуццяў яны часцей за ўсё перажываюць у адзіноце, нікому не давяраючы сваіх таямніц. Уладальнікі трэцяй групы крыві здольныя быць гарачымі палюбоўнікамі.

Каб зачараваць плэйбоя, лепш за ўсё зрабіць выгляд, што вы абсалютна да гэтага не імкнецеся. Паказная абыякавасць толькі ўзмоцніць яго цікавасць да вас, зрэшты, гарантыі, што яго пачуцці захаваюцца надоўга, не дасць ніхто.

**Чацвёртая група: праз сумневы і памылкі - да цэласці**

Доля мужчын з чацвёртай групай крыві - рух. Яны энергічныя, таварыскія, валодаюць сілай волі, прабіўной здольнасцю, умеюць наладжваць кантакты. Ім дадзена магчымасць спакушаць, не прыкладаючы да гэтага намаганняў. Але варта самому закахацца, і яму прыходзіцца нялёгка. Ён па-сапраўднаму пакутуе. Уладальнікі гэтай групы крыві ўвесь час пакутуюць ад душэўнага разладу, сумневаў і нерашучасці. Моцнае пачуццё для іх - гэта сродак пазбавіцца ад супярэчнасцяў і стаць суцэльным. Вядома, такія мужчыны вельмі і вельмі тэмпераментныя ў сексуальных адносінах, з задавальненнем фантазіруюць і эксперыментуюць у пасцелі і часамі проста нястомныя.

Калі вы гатовыя праявіць анёльскае цярпенне і жалезную вытрымку, якія спатрэбяцца, каб вытрымаць яго перапады настрою, адважвайцеся! Паспрабуйце стаць для яго "ціхай гаванню", дзе ён заўсёды знойдзе разуменне і спагаду, і ён абавязкова гэта ацэніць.

## ІМЯНІНЫ

**31 сакавіка**
**Пр.:** Кірылы, Трафіма.
**К.:** Альбіны, Карнеліі, Веньяміна.

**1 красавіка**
**Пр.:** Сафіі, Івана, Інакенція.
**К.:** Ірыны, Тодара.

**2 красавіка**
**Пр.:** Аляксандры, Клаўдзіі, Матроны, Праскоўі, Ульяны, Фядоссі, Віктара, Івана, Мікіты, Севасцьяна, Сяргея.
**К.:** Мальвіны, Марыі, Уладзіслава, Францішка.

**3 красавіка**
**Пр.:** Кірылы, Фамы, Фёдара, Якава.
**К.:** Ірэны, Рэнаты, Антона, Панкрата, Рышарда.

**4 красавіка**
**Пр.:** Васіля, Ісака.
**К.:** Антаніны, Антона, Бенядзікта, Вацлава, Ізыдара.

**5 красавіка**
**Пр**.: Лідзіі, Настассі, Васіля, Генадзя, Дзмітрыя.
**К.:** Вінцэнты, Ірэны, Вінцэнта, Юльяна.

**6 красавіка**
**Пр.:** Арцёма, Захара, Пятра, Сцяпана, Уладзіміра, Якава.
**К.:**Ады, Ізольды, Вільгельма, Пятра, Часлава.




**Ответы на сканворд №12**
**По горизонтали:** Варикап. Ям. Вад. Нарва. Кряж. Асуан. Диета. Акр. Полка. Рила. Максимова. Озрик. "Сид". Тае. Афиша. Рупор. Пат. **По вертикали:** Риджбек. Авр. Рая. Анапа. Пас. "Ява". Манера. Рубаи. Досмотр. Ил. Такси. Клавиша. Рем. Азау. Креп. Икар. Осип. Адат.

## ГАРАСКОП
### на новы тыдзень



**АВЕН.** Пачатак тыдня прынясе прызнанне і поспех. Блізкія не перастаюць дзівіцца, як вам атрымоўваецца сумяшчаць працу з іншымі заняткамі і пры гэтым добра выглядаць. У сярэдзіне тыдня заняткі творчасцю запатрабуюць адзіноты. Прыйдзецца прыкласці нямала намаганняў дома і на службе. У пятніцу асаблівай увагі запатрабуе здароўе. У выхадныя не варта перажываць з-за выпадковых падзей. Пазбягайце замкнёных памяшканняў, больш бывайце на свежым паветры - адпачывайце, набірайцеся ўражанняў.



**ЦЯЛЕЦ.** У першай палове тыдня каханы чалавек будзе занадта заняты, каб надаваць вам дастаткова ўвагі. Вам навват здасца, што ў адносінах не ўсё гладка. Насамрэч гэта не так. Цяпер, як ніколі, трэба быць больш жыццярадаснай і актыўнай. Не забывайцеся: вам пад сілу "звярнуць любыя горы". Каб дамагчыся чагосьці значнага, трэба праявіць стрыманасць. У другой палове тыдня блізкія не адразу прымуць вашы прапановы. У сувязі з гэтым магчымыя перапады настрою. Падтрымаць арганізм у тонусе дапамогуць цікавыя заняткі. У нядзелю пазбаўцеся ад непатрэбных рэчаў.



**БЛІЗНЯТЫ.** Дзейнічайце энергічна, і справы пойдуць угару. Новыя кантакты могуць быць карысныя і цікавыя, аднак пераборлівасць ніколі не перашкодзіць. Шанцы сустрэць адзінага мужчыну цяпер вельмі вялікія. Атмасфера вакол вас абвострана: вамі цікавяцца, вы запатрабаваныя. У канцы трэцяй дэкады месяца ёсць шанц атрымаць статус каханай начальніка ці выкладчыка.



**РАК.** Вы так запрацаваліся, што зусім забыліся пра ўласны знешні выгляд. Вам даўно пара змяніць гардэроб і аксесуары, таксама гэта дапаможа зняць стрэс і падняць настрой. Звярніце ўвагу на новыя тэндэнцыі. Не прытрымлівайцеся занадта строга класічнага стылю. Часам можна даць сабе волю. Вы на такім добрым рахунку, што вам гэта толькі на руку.



**ЛЕЎ.** Менавіта вы з'яўляецеся той рухальнай сілай, якой трэба будзе ўсталёўваць магчымыя абмежаванні і ўмовы будучых падзей. Нябесныя свяцілы размясціліся такім чынам, што вы будзеце ў выйгрышы, калі выявіце настойлівасць і цвёрдасць характару. Здаецца, нічога асабліва складанага для вас у гэтым няма - аднак, як той казаў, хто папярэджаны, той узброены. Будзьце ўпэўнены ў сабе і трымайцеся сваёй мэты.



**ПАННА.** Пачатак тыдня пакажа, што ў адносінах з каханым чалавекам існуюць няроўнасці. Цяпер трэба сабраць волю ў кулак і адмесці любыя эмоцыі. Бліжэй да сярэдзіны тыдня "выгарыць" цікавая паездка. У канцы тыдня прыйдзецца вырашаць чужыя праблемы. У гэты ж час добра б пачаць вучыцца чаму-небудзь новаму. Субота - радасны дзень, прынясе шмат станоўчых эмоцый. Сцеражыцеся прастуды ў нядзелю.



**ШАЛІ.** Новыя магчымасці вашага бізнесу, якія могуць адкрыцца ў пачатку тыдня, лепш першы час не афішаваць, паколькі ўмяшанне ў працэс староніх можа толькі ўскладніць сітуацыю. Лепш вырашаць гэтыя задачы, абапёршыся на падтрымку сябroў. У сярэдзіне тыдня час іграе на вас. Дзейнічайце рашуча, калі жадаеце шмат чаго ў жыцці дамагчыся. А вось праблемы вам цяпер непатрэбныя, таму вядзіце справы толькі з паспяховымі людзьмі.



**СКАРПІЁН.** Увесь тыдзень у Скарпіёнаў пераважае бліскучая самаацэнка і інстынкт самаабароны, таму паспрабуйце гарманічна ўпісацца ў кругазварот жыццёвых акалічнасцяў. Дзелавы марафон на доўгую дыстанцыю з кароткімі перапынкамі доўжыцца ўвесь тыдзень і нават больш. Бярыцеся за добра аплочваемыя заданні, застанецеся ў выйгрышы.



**СТРАЛЕЦ.** На новым тыдні Стральцам неабходна больш адпачываць, ды і свяціла не супраць вашага марнавання часу. Вы проста абавязаны ўзнагародзіць сябе за ўсе мінулыя старанні, прыкладзеныя не столькі дзеля ўласных мэт, колькі на карысць навакольных. Пачынаючы з сярэдзіны тыдня наладзіцца на прыемны лад. У такім стане істотна ўзрастае магчымасць новага знаёмства. Як варыянт - новыя адносіны могуць з"явіцца там, дзе вы іх зусім не чакалі.



**КАЗЯРОГ.** У першую палову тыдня ўдзяліце ўвагу дробным справам, якія непажадана пераносіць "на потым". Акрамя вас, гэтага больш нікому не здужаць. Палепшыць адносіны з каханым чалавекам дапамогуць сумесныя творчыя заняткі. У другой палове тыдня "сямейная лодка" наскочыць на ўтоеныя падводныя камяні. Могуць узнікнуць праблемы з мінулага. Вопыт падкажа, як іх лепш вырашыць. Паспрабуйце да выхадных разабрацца з гэтым, каб нішто не азмрочвала адпачынак.



**ВАДАЛЕЙ.** Парой людзі закаханыя могуць ператварацца ў супернікаў. У такой сітуацыі цяжка штосьці вырашыць. Так бывае, калі ў блізкія адносіны ўступаюць дзве моцныя і незалежныя асобы. Аднак ведайце, што здацца больш слабым чалавекам, чым вы ёсць насамрэч, - гэта не прыкмета паражэння, а першы крок да мудрай перамогі. Магчыма, вы гэтага не ведаеце і не падазраеце, але гэта сувязь можа прынесці вам яшчэ нямала прыемных неспадзявак.



**РЫБЫ.** Вы занадта шмат увагі надаяце адзенню і знешняму выгляду? Выдатна, бо менавіта гэта можа паўплываць на стаўленне процілеглага полу. Каханне прынясе вам шмат ўражанняў. У пакупках лепш за ўсё абмежавацца самымі неабходнымі рэчамі.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі № 1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.

"Вольнае Глыбокае"
Заснавальнік: Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае унітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб'ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 29 03. 2011 года ў 21.05
«Вольнае Глыбокае» надрукавана на газетнай паперы РУВП **«Завод газетнай паперы»** (г.Шклоў).
Наклад 2000 паасобнікаў

Рэдактар : **Уладзімір Іванавіч Скрабатун.**
**тэлефон / факс**: (02156) 2 46 14;
**E-mail**: vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў:
**211800 г. Глыбокае п/с 3**

Замова № 1206

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў. Спасылкі на "Вольнае Глыбокае" абавязковыя.

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае». Надрукавана ў РУП «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ, 222310, г. Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Афсетны друк.
Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, ком.1, г. Глыбокае.

ISSN 2077-8023